БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

*1 лістапада 1994 г.*

*Аўторак*

*№ 117(13834)*

Кошт у розніцу 25 рублёў

Выдаецца з 1921 года


*Малюе Віктар ДУБОВІК*




*У Мінску, у Палацы культуры тонкасуконнага камбіната, прайшоў маладзёжны кірмаш вакансій. Тым, хто прыйшоў на кірмаш з надзеяй працаўладкавацца, было прапанавана 11 тысяч шматлікіх варыянтаў, што адпавядае прыкладна колькасці беспрацоўных у Мінску. Сярод вакансій пераважалі рабочыя прафесіі.*

Фота Сяргея МІКАЛАЕВА.

## Кур'ер "ЧЗ"

### "ДЗЯДЫ" Ў ВЕРШАХ І АСОБАХ

***Папулярная перадача беларускага радыё "Апоўдні" заўтра будзе поўнасцю прысвечана Дню памяці продкаў "Дзяды". Прычым яе радыёслухачоў чакае сюрпрыз — прэм'ера спектакля па матывах паэмы Адама Міцкевіча "Дзяды".***

Пастаноўку ажыццявіў малады беларускі журналіст Эдвард Тарлецкі. У ёй прынялі ўдзел вядучыя акцёры Купалаўскага тэатра, у ліку якіх Стэфанія Станюта, Віктар Манаеў, Уладзімір Кін-Камінскі, Юрый Авяр'янаў. Музычнае афармленне запазычана з вядомага "Полацкага сшытка".

Цікава, што гэта паэма на беларускай мове яшчэ не выдавалася. У свой час яе спрабавалі перакласці Наталля Арсеньева і Браніслаў Тарашкевіч. Пераклад, узяты за аснову спектакля, ажыццявіў, цяпер ужо нябожчык, Пятро Бітэль. І гэта паэма, і шэраг іншых твораў Адама Міцкевіча ў перакладзе Бітэля ўвойдуць у зборнік твораў паэта, які рыхтуецца ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".

**БЕЛІНФАРМ.**

### ДЗЕНЬ ПРОДКАЎ У МІНСКУ

***Як паведамілі ў Мінскім гарсавеце, заўтра ў сталіцы рэспублікі адбудуцца наступныя мерапрыемствы, прысвечаныя Дню памяці продкаў:***

10.00 — ускладанне кветак і вянкоў у Курапатах.

12.00 — Мітынг каля будынка КДБ, арганізаваны БНФ. Затым шэсце ў Курапаты.

12.00 — Ускладанне кветак да магілаў вядомых дзеячаў на Маскоўскіх і Воінскіх могілках.

14.00 — Мітынг-рэквіем БНФ у Курапатах. Пасля заканчэння — ускладанне кветак на брацкай магіле ў в.Лошыца.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### СВЯТА Ў ГІСТОРЫКАЎ

***Вялікае свята прыйшло і на вуліцу гісторыкаў. Былыя выпускнікі гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, цяперашнія студэнты, сустрэлі юбілей — 28 кастрычніка факультэту споўнілася роўна 60.***

Ля яго вытокаў стаяў вядомы беларускі вучоны, першы рэктар БДУ Уладзімір Іванавіч Пічэта. Першыя студэнты — беларускія дзяўчаты і хлопцы, прыйшлі ў аўдыторыі новага факультэта ў 1934 годзе. За гэты час тут атрымала адукацыю не адно пакаленне маладых людзей, якія выбралі для сябе нялёгкую прафесію выкладчыка аднаго з самых любімых прадметаў. Гістарычны факультэт для вельмі многіх стаў першай ступенькай да вялікіх навуковых дасягненняў, адсюль выйшлі палітычныя дзеячы і работнікі культуры нашай рэспублікі.

Сёння гэты факультэт мала чым нагадвае звычайны факультэт ВНУ. Ён больш падобны на велізарны лабараторна-даследчы цэнтр праблем у галіне гістарычных навук, права, міжнародных адносін, паліталогіі і культуры. І менавіта тут закладваецца аснова многіх вялікіх пачынанняў нашай рэспублікі.

### ВЫРАТАВАЦЬ ГРАФСКІ ПАРК

***Шырынскім — па прозвішчу былога ўладальніка — называюць гэты старажытны парк, які мяжуе з райцэнтрам Шаркоўшчына. Растуць тут рэдкія дрэвы і кусты, ёсць сажалка, дзе плаваюць карасі, прываблівае наведвальнікаў загадкавай роўняддзю цёмнай вады. На жаль, усю гэту прыгажосць псуе поўнае запусценне.***

Ініцыятары аднаўлення цудоўнага кутка прыроды звярнуліся да грамадскасці райцэнтра з заклікам навесці ў ім парадак. А прычына больш чым пераканаўчая: выкарыстоўваць у далейшым гэта месца для правядзення масавых мерапрыемстваў. Напрыклад, для святкавання Івана Купалы.

### ПЕРШЫЯ ГЛЕДАЧЫ – СТУДЭНТЫ

***На старажытнай полацкай зямлі зняў свой новы дакументальны фільм "Славянскія танцы" беларускі рэжысёр Віктар Шавялёў. Першымі гледачамі стужкі сталі студэнты мясцовага універсітэта.***

Запрасіўшы вядомага кінарэжысёра, члены універсітэцкага клуба "Кінааматар" не задаволіліся толькі прэм'ерай "Славянскіх танцаў", але і з цікавасцю паглядзелі яго стужку "Прыйдзі і віждзь" пра Кірылу Тураўскага.

**БЕЛІНФАРМ.**

### ПАСЛЯДОЎНІКІ СЛАВЯНСКІХ АСВЕТНІКАЎ

***Кірыла–Мяфодзіеўскае праваслаўнае брацтва, створанае каля года таму пад апякунствам Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі, распачала рэалізоўваць сваю адукацыйную праграму.***

Яна ўключае ў сябе навучанне царкоўнаславянскай, сербахарвацкай і старабеларускай мовам, а таксама асновам багаслоўя. У наступным годзе праграма набудзе статус навучальных курсаў царкоўнай культуры і славяназнаўства.

Члены аб'яднання праваслаўных хрысціян акрамя адукацыйных праграм прымаюць удзел у аднаўленні закінутых храмаў. Так, імі ўжо адбудавана царква ў Вілейскім раёне. Сёння Кірыла-Мяфодзіеўскае праваслаўнае брацтва мае патрэбу і ў матэрыяльнай падтрымцы, якую можна накіроўваць на разліковы рахунак № 700249, код 767 у АКБ "Дукат" У Мінску.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### ВІНШАВАННЕ УНІВЕРСІТЭТУ

***Беларускаму аграрнаму тэхнічнаму універсітэту споўнілася 40 год.***

З гэтай нагоды прэзідэнт Беларусі накіраваў віншаванне прафесарска-выкладчыцкаму саставу, інжынерна-тэхнічнаму персаналу, студэнтам і выпускнікам гэтай навучальнай установы.

### МАЎЧАННЕ – ЗОЛАТА?

***У сувязі з павелічэннем цэн на электраэнергію і павышэннем чыгункай тарыфаў на перавозку пошты Міністэрства сувязі і інфарматыкі рэспублікі павысіла цэны на свае паслугі.***

Так, мінута міжгародняй тэлефоннай размовы ў межах вобласці цяпер будзе каштаваць 24 рублі, у межах рэспублікі — 48 рублёў. Перасылка простага пісьма масай да 20 грамаў ацэнена ў 15 рублёў, а кошт аднаго слова ў звычайнай тэлеграме — 6 рублёў. Дарэчы, адно слова тэрміновай тэлеграмы каштуе ў два разы даражэй.

Аднак павелічэнне тарыфаў, паводле разліку сувязістаў, не пакрые фактычных расходаў. Напрыклад, рэальныя затраты на эксплуатацыйнае абслугоўванне аднаго кватэрнага тэлефона складуць цяпер 5100 рублёў, а абанентная плата за гэты ж час 1000 рублёў — шалёная і для сувязістаў і для нас, спажыўцоў.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Курсы валют на 31 кастрычніка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 6680 | 6900 | 4425,5 | 4617 |
| "Алімп" | 6650 | 6928 | 4404 | 4619 |
| "Дукат" | 6700 | 7100 | 4500 | 4750 |

## ПАДПІСКА-95

### МЫ РАДЫ КОЖНАМУ ЛІСТУ

Бадай, больш за ўсё інфармацыі пра нашага чытача трапляе ў аддзел пісьмаў. Менавіта сюды ідуць допісы вельмі розныя па свайму зместу, грамадскаму гучанню, ад людзей усіх сацыяльных груп. Сярод гэтых лістоў сёлета нямала было просьбаў аб дапамозе, скаргаў на абыякавасць мясцовых улад, пытанняў па шматлікіх праблемах, што зараз ахапілі грамадства. Да кожнага пісьма мы імкнуліся ставіцца з увагай, некаторыя накіроўвалі ў розныя інстанцыі, ад якіх залежала вырашэнне той або іншай справы. Так, на скаргі нашых чытачоў мы атрымалі адказы ад Дзяржкамчарнобыля, Міністэрства адукацыі, Беларускага рэспубліканскага фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне" і інш. У кожным выпадку адрасатам была аказана канкрэтная дапамога. У наступным годзе аддзел пісьмаў зноў-такі бярэ пад сваю апеку клопаты чытачоў. Да таго ж, мы мяркуем пастаянна весці рубрыку "Юрыдычная служба", у якой, думаецца, маюць патрэбу многія. Кансультацыі кваліфікаванага юрыста, бясспрэчна, дапамогуць зарыентавацца ў складаных жыццёвых сітуацыях абапіраючыся на законы нашай дзяржавы.

У новым 1995 годзе вучні школ, студэнты ВНУ, усе тыя, хто хоча паспрабаваць свае творчыя сілы на старонках "Чырвонкі", змогуць даслаць свае першыя творы ў новую рубрыку "Спроба пяра". Хто ведае, магчыма, з гэтых першых публікацый пачнецца шлях у вялікую журналістыку і літаратуру.

Як заўсёды на старонках "Чырвонай змены" захаваецца "Паштовая скрынка". Тут — пісьмы, у якіх аналізуюцца розныя жыццёвыя з'явы, развагі аб нашай рэчаіснасці. Мы рады кожнаму лісту, а таксама ўдзячны тым, хто актыўна супрацоўнічаў з газетай сёлета. Гэта мінчане Вячаслаў Ішчанка, Ларыса Шувалава, Міхась Маліноўскі з Баранавіч, Уладзімір Ларыёнаў з Гомеля, Павел Бензярук з Брэста і іншыя.

Наступны падпісны год у "Чырвонай змене" перад'юбілейны. Газета рыхтуецца да свайго 75-годдзя. А таму ўспаміны аб творчым шляху беларускага маладзёжнага выдання будуць друкавацца пад рубрыкай "Рэтраспектыва". Запрашаем усіх, хто працаваў у "Чырвонцы", быў звязаны з ёю ў розныя гады, адгукнуцца сваімі творамі.

***Мы з радасцю чакаем сустрэчы са сваімі вернымі сябрамі ў 1995 годзе.***

***Кошт падпіскі на квартал — 6 тысяч рублёў, падпісны індэкс 63129.***

**Аддзел пісьмаў і вывучэння грамадскай думкі. Тэл. 68-28-32.**



## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА





*Дзяжурныя па выпуску*
*перакладчык*
*Ларыса ДУДАРУК,*
*Людміла КАХАВЕЦ,*
*рэдактар*
*Наталля ВАЛАКІДА.*


**"Уорлднэт" — "Еўраньюс" — "TV-5"**

### КАНФЛІКТ РАЗГАРАЕЦЦА

***Лідэр баснійскіх сербаў выступіў па сербскаму тэлебачанню.***

У сваім інтэрв'ю ён пагражаў баснійскім мусульманам, а таксама выступіў супраць усялякіх мірных перагавораў, загадзя заявіўшы, што яны ні да чаго не прывядуць. Тым часам у Сараева па-ранейшаму адбываюцца сутыкненні паміж варагуючымі групоўкамі. Пасля перагавораў камандуючых сіл ААН з баснійскімі сербамі ўдалося нарэшце дабіцца вызвалення салдат ААН, узятых 4 дні таму ў палон.

### "ДЭФІЦЫТНЫ" ЦЯГНІК

***Град званкоў з заказамі білетаў на цягнік, які праходзіць цераз тунель, што злучыў Англію з Францыяй, прывёў да перабояў на тэлефонных лініях.***

Як вядома, тунель быў пабудаваны, каб "разгрузіць" паветраныя маршруты Лондан—Парыж і Лондан—Брусель. У першыя ж тры гадзіны работы білетных кас прагучала каля 600 званкоў, з якімі тэлефонная сістэма была проста не ў стане справіцца.

### ВЫТВОРЧАСЦЬ ЦУКРУ ДАРУЧАНА ІНШАЗЕМЦАМ

***Вытворчасць цукру на Кубе дазволена іншаземным прадпрымальнікам, якія атрымліваюць цяпер магчымасць інвесціраваць усе галіны па яго вырабу.***

На гэты крок кубінскі ўрад вымушаны быў пайсці з-за крытычнага стану, у якім апынулася важнейшая галіна краіны.

### СВЯТКУЮЦЬ ЭКСТРЭМІСТЫ

***Каля 3 тысяч італьянскіх экстрэмістаў арганізавалі свята, прысвечанае дню прыходу да ўлады Мусаліні.***

Паводле слоў арганізатараў, яны разглядаюць гэтую акцыю таксама і як крытыку цяперашняга ўрада Італіі.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

